

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добры вечар

1993 МАЙ 13 ЧАЦВЕР

№ 88 (523)

Цана 5 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ БЕЛАПАН, РІД, БЕЛІНФАРМ І ЎЛАСНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ»

### ПОДГОТОВКА К СЪЕЗДУ БЕЛОРУСОВ МИРА — В ПОЛНОМ РАЗГАРЕ

Виктор ДЯТЛИКОВИЧ

Как известно, 8-10 июля этого года в Минске состоится съезд белорусов мира. 11 мая в Доме литератора прошла пресс-конференция, организованная рабочей группой ЗБС «Бацькаўшчына» по подготовке съезда и Министерством информации Республики Беларусь. Основной ее целью было информирование журналистов о подготовке к съезду.

По словам представителей рабочей группы, приглашения на участие в съезде были отправлены более чем по 280 адресам, и на сегодняшний день свое участие подтвердили белорусские диаспоры в США, Франции, Бельгии, Великобритании, Австралии, Аргентине и многих других странах. Так, только из Соединенных Штатов Америки ожидается приезд 240 человек. «Благодаря» такому многочисленному «десанту» из Америки представительство белорусов дальнего зарубежья на съезде намного превысит предполагаемое ранее количество из 300 человек. Около 300 гостей ожидается из республик бывшего СССР и Польши и чуть меньше — из самой Беларуси. Финансовое обеспечение съезда ведется по двум путям — спонсорство со стороны коммерческих структур, общественных и политических движений, партий, частных лиц и помощь со стороны государства.

На пресс-конференции журналисты были ознакомлены с предварительной программой съезда, а также с вопросами информационного обеспечения данного мероприятия.

### □ КОРОТКО

НА НЕДАВНЕМ расширенном заседании коллегии Министерства обороны, в котором приняли участие Генеральный прокурор республики В.Шолодонов, министр внутренних дел генерал-лейтенант В.Егоров и другие ответственные лица из различных ведомств, представители общественных организаций, обстоятельно анализировался ход призывной кампании. На заседании отмечалось, что ограничение призывных ресурсов (по предварительным подсчетам, весной придет в армию 16—16,5 тысячи человек, а надо в два раза больше) затрудняет комплектование Вооруженных Сил. К тому же, как это ни прискорбно, год от года увеличивается число «отказников» от воинской службы. Вот лишь одна цифра: на 5 мая по повесткам на призывные участки без уважительных причин не прибыло более 2 тысяч человек. Принимаются меры как в центре, так и на местах к более организованному проведению весеннего призыва.

### □ ИЗМЕНЕНИЯ В НАЛОГАХ

### РАСКОШЕЛИВАЙТЕСЬ

Соб. инф. «ДВ».

В прошлом году сессия Мингорсовета приняла Положение о местных налогах и сборах. А на последнем заседании горисполкома было решено внести изменения и дополнения в это Положение.

**Сейчас сбор на торговлю с транспортных средств взимается в таких размерах:**

— при торговле с легкового автомобиля — 0,25 минимальной зарплаты,

— легкового автомобиля с прицепом — 0,4 минимальной зарплаты,

— грузового автомобиля (включая микроавтобусы) с грузоподъемностью до 1 тонны — 0,5 мин. зарплаты,

— грузоподъемностью от 1 до 5 тонн — 0.75 мин. зарплаты, от 5 до 10 тонн — одна минимальная зарплата, свыше 1 тонны — 1,5 мин.зарплаты.

С владельцев собак ежемесячно будет взиматься такой сбор:

если собака в холке имеет до 40 см — 0,02 минимальной зарплаты, до 70 см — 0,05 мин. зарплаты, а свыше 70 см — 0,1 мин. зарплаты.

Неработающие пенсионеры, инвалиды I и II групп и другие нетрудоспособные граждане при отсутствии совместно проживающих трудоспособных членов семьи освобождаются от уплаты сбора за одну собаку.

Владельцы собак — жители частного сектора — освобождаются от уплаты сбора, если содержат одну собаку, которая не является источником получения дополнительного дохода.

## СЛОВА ЗА ВАМІ, ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!



Складаны час — складаныя праблемы. Адна з важнейшых — аб далучэнні Беларусі да Дагавора аб калектыўнай бяспецы і падрыхтоўцы гэтага пытання да разгляду на чарговай 12 сесіі парламента. Сёння Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч выказвае свае меркаванні па названай праблеме.

Чытайце! Думайце!

(Матэрыял змешчаны на 2-й старонцы «ДВ»).

## КАЛЯНДАР



*ЧАЦВЕР, 13 МАЯ (ТРАЎНЯ)*

*СОНЦА — 5.11/21.01*

*Даўжыня дня — 15.50.*

*МЕСЯЦ — апошняя квадра 15.20*

*усход 1.47/заход 11.16*

*ІМЯНІНЫ:*

*Праваслаўныя:*

*Даната, Ігната (Ігнація), Мікіты, Якуба (Якава, Іакава).*

*Каталіцкія:*

*Робэрта, Сэрваца, Юты.*

*Маці Божае Фацімскай.*

*НАРОДНЫ КАЛЯНДАР:*

*Цёплы вечар на Якава і зорная ноч — будзе цёплае лета і добры ўраджай.*

*«На Якуба грэе люба».*

### • ПАРТАКТЫЎ

## МЫ — МІРНЫЯ ЛЮДЗІ
### І без аніякага бронецягніка

УЛАСН.ІНФ.«ДВ».

Напярэдадні чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь восем самых уплывовых палітычных партый і рухаў краіны (Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларускі народны фронт «Адраджэньне», Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная Злучнасць, Беларуская сялянская партыя, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Партыя народнай згоды, Рух за дэмакратычныя рэформы) прынялі супольную заяву ў сувязі з тым, што «рэакцыйная большасць Вярхоўнага Савета распачала чарговую спробу заблакіраваць правядзенне рэферэндуму аб нейтралітэце».

У Заяве падкрэсліваецца, што гэтыя партыі падтрымліваюць прапанаванае на рэферэндум пытанне ў фармулёўцы Старшыні ВС С.Шушкевіча, а таксама патрабуюць адмены пастановы аб адмове ў правядзенні рэферэндуму, «якая груба парушыла правы і зняважыла волю 442 тысяч грамадзянаў Беларусі». Партыі заклікаюць вынесці на абавязковы рэферэндум пытанне аб датэрміновым роспуску ВС і нечарговых выбарах, якія павінны адбыцца не пазней сакавіка 1994 года.

Нагадаем, што, згодна з сацыялагічнымі апытаннямі, большасць грамадзян Беларусі выступаюць катэгарычна супраць любых ваенных саюзаў і страты краінай сваёй незалежнасці. Што адкажа ВС?

### • ВСЕ ШЛО К ТОМУ

## ПОЛКУ ОФИЦЕРОВ ЗАПАСА ПРИБЫЛО

Алесь ЛИПАЙ, Белапан.

ПРИКАЗОМ № 0499 министра обороны Беларуси Павла Козловского в запас уволен председатель Белорусского объединения военнослужащих Николай Статкевич.

Подполковник Н.Статкевич — кандидат технических наук, старший преподаватель Минского высшего военно-инженерного училища. Только что завершил работу над докторской диссертацией по вопросам военной техники и вооружений. Имеет около 20 лет календарной выслуги. В качестве председателя Белорусского объединения военнослужащих поставил свою подпись под заявлением демократических сил против присоединения Беларуси к Договору о коллективной безопасности стран СНГ, тем самым против Министерства обороны республики.

Уволен с формулировкой «За дискредитацию высокого звания офицера», которая употребляется очень редко при увольнении военнослужащих в запас. К примеру, даже разоблаченные при злоупотреблениях офицеры увольнялись в запас с более мягкой формулировкой — «несоответствие служебному положению». Применение в отношении Н.Статкевича статьи 61 лишает его многих прав — на приватизацию жилья, полученного во время военной службы, пользование санаториями и даже на выходное денежное пособие.

Между тем единственное обвинение, которое ему предъявлялось,— невыполнение приказа министра обороны о неучастии военнослужащих в общественно-политических организациях и нарушение соответствующего положения Закона о статусе военнослужащих. Однако выглядит странным обвинение в этом, сделанное до заключения министерства, которое осуществляет проверку соответствия деятельности БОВ в армии его юридическому статусу. Согласно Уставу, Белорусское объединение военнослужащих является неполитическим движением. Более того, сразу же после принятия Верховным Советом Беларуси поправки к Закону о статусе военнослужащих, которая запрещала их участие в общественно-политических организациях, Исполнительная рада БОВ, чтобы избежать увольнений членов объединения из армии, приостановила членство в БОВ кадровых военных до совершенствования юридического статуса этой организации. Всех, кроме председателя объединения Н.Статкевича — прежде всего, наверное, из моральных соображений.

Правда, при увольнении Н.Статкевича все-таки использовался документ, в котором якобы подтверждается политический характер деятельности БОВ. Это «Заключение о законности деятельности БОВ», подписанное одним из начальников отдела Прокуратуры республики. Но, как заявил в беседе с заместителем Минской городской организации БОВ Анатолием Гуриновичем Генеральный прокурор Беларуси Василий Шолодонов, использование некоторых заключений по этому вопросу от имени прокуратуры неправомерно.

Руководство БОВ считает, что в данном случае имеет место фальсификация.



### □ НА СЕСІІ МІНГАРСАВЕТА

## НАС ШТРАФАНУЦЬ ЦЯПЕР ПА-НОВАМУ

УЛАСН.ІНФ.«ДВ».

Пачала сваю работу чарговая XII сесія Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. На яе разгляд вынесены і зацверджаны пытанні, важнейшымі з каторых падаюцца «Справаздача аб рабоце выканкама Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў за 1992 год», «Аб парадку і межах распараджэння дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска», а таксама «Аб зацвярджэнні штрафаў, якія прадугледжаны Кодэксам аб адміністрацыйнай адказнасці...»

І натуральным уяўляецца, што сесія адразу ж пасля прыняцця парадку дня ўзялася за абмеркаванне работы выканаўчага камітэта. З дакладам выступіў старшыня гарсавета і гарвыканкама Аляксандр Герасіменка. Ён падрабязна, наколькі дазваляў рэгламент, спыніўся на выніках дзейнасці гарадской выканаўчай улады, распавёў пра прыярытэтныя і перспектыўныя напрамкі дзейнасці ў будучым. Зрэшты, пераказваць даклад для нашых чытачоў — справа няўдзячная, бо праз колькі дзён вы будзеце мець магчымасць прачытаць яго на нашых старонках.

Даклад быў выслуханы з цікавасцю і горача абмеркаваны, але да прыняцця адпаведнай пастановы справа так і не дайшла. Праект яе адпраўлены на дапрацоўку.

Не меншую актуальнасць, асабліва для нашых чытачоў-гараджан, набыло другое пытанне, якое разглядала сесія, а менавіта новыя памеры штрафаў за адміністрацыйныя правапарушэнні. Смеху варты, для прыкладу, сённяшні штраф за безбілетны праезд у грамадскім транспарце ў памеры 25 (!) рублёў. Новыя правілы прывяжуць суму штрафаў да мінімальнай заработнай платы і стануць непадуладнымі інфляцыі.

**Дэпутаты прынялі адпаведную пастанову, згодна з якой новыя памеры штрафаў павінны ўступіць у дзеянне з 1-га чэрвеня. Па закону, грамадзяне павінны мець час для азнаямлення з правіламі, а таму раім купляць «Добры вечар» — у бліжэйшых нумарах змены ў Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях будуць апублікаваны на нашых старонках.**

Цікава, між тым, што шэраг пунктаў пастановы не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Так, для прыкладу, дэпутаты адправілі на дапрацоўку пункт, які прызначаў пакаранне за гандаль і абмен замежнай валюты. Але ненадоўга, і камароўскім валютчыкам якраз хопіць часу, каб падумаць, у якую іншую галіну бізнесу ўкладаць свае грошы і намаганні.

Камароўка згадвалася на сесіі і яшчэ раз — падчас разгляду дзейнасці камісіі, утворанай па дэпутацкаму запыту В.Андрыянавай. Камісія займалася гандлем тварожнасырковай прадукцыі мінскіх малаказаводаў, і ў прыватнасці, махінацыямі з глазураванымі сыркамі. Многа цікавых звестак атрымалі народныя дэпутаты, але пра гэта, а таксама пра разгляд іншых пытанняў парадку дня чытайце ў допісах нашага карэспандэнта з гарадскога парламента на наступным тыдні, калі сесія працягне сваю работу.

## ОБ ЭТОМ ГОВОРЯТ

КРИМИНАЛ

## УБИЙСТВО БИЗНЕСМЕНА

### ПРЕСС-ЦЕНТР УВД

СЕРГЕЙ РАЧИЛО

С САМОГО раннего утра 12 мая телефон пресс-центра УВД Мингорисполкома, что называется, разрывался. Звонили журналисты городских и республиканских газет с просьбой дать подробную информацию об убийстве, которое произошло во вторник утром на проспекте Машерова. Удивительно, звонившие сами до мельчайших подробностей излагали свои версии убийства генерального директора концерна «Коминвест» Александра Л. И просили их подтвердить.

Ясное дело, любой печатный орган стремится всеми способами, не взирая ни на что, первым опубликовать сенсационное сообщение. А это, порой, достаточно сильно затрудняет работу многих работников следственно-оперативных подразделений. Поэтому убедительная просьба к корреспондентам — не спешите с выводами в своих выступлениях и публикациях. Дайте возможность не только следователям спокойно во всем разобраться и докопаться до истины, но и сыщикам, представителям других служб милиции выявить и задержать виновника (виновников?) трагедии, который наверняка использует ваши заметки как путеводитель...

Не сомневайтесь, как только будет внесена ясность в это дерзкое преступление, мы тотчас расскажем читателям обо всем.

Что касается убийства — да, оно действительно имело место. Да, вблизи места трагедии найдено и предполагаемое орудие преступления. Об этом факте, кстати (да простят журналисты за выражение), вы совершенно напрасно «жужжите» налево и направо. И здесь существует масса версий и предположений.

Словом, есть старая и мудрая поговорка насчет «батьки в пекло». По-моему, актуальности она не потеряла и по сей день.

### ВЕРСІЯ «ДВ»

ІВАН КАХНОВІЧ, «ДВ».

**АДРАЗУ агаворымся, што яна, безумоўна, не прэтэндуе на абсалютную ісціну і абапіраецца не на афіцыйныя крыніцы.**

**Дык вось, па нашых звестках, у аўторак, недзе каля 10 гадзін раніцы, на праспекце Машэрава здарылася трагедыя. Калі старшыня Праўлення канцэрна «Камінвест» Аляксандр Лісьнічук у суправаджэнні свайго целаахоўніка выйшаў з офіса, прагучаў стрэл. Як высветлілася пазней, куля трапіла пацярпеўшаму ў грудзі. Целаахоўнік даставіў свайго шэфа ў бальніцу, дзе ўрачы тры гадзіны змагаліся за жыццё Аляксандра Лісічука. Яны зрабілі ўсё, што маглі, але ж... Памёр малады, трыццаціпяцігадовы энергічны чалавек. Каму ён «мяшаў», хто спакусіўся на яго жыццё? Безумоўна, адказ на гэтыя пытанні зможа даць толькі даследаванне. Але, пэўна, ніхто не сумняваецца, што забойства было не выпадковае, і замешаны тут не дылетанты. Зразумела, гэтае здарэнне выклікала вялікі рэзананс, для нашай рэспублікі яно першае такога роду. Толькі ці апошняе? Надта ж звыклымі сталі падобныя стрэлы ў суседняй Расіі, напрыклад. Але пачакаем паведамленняў з афіцыйных крыніц. Мы абавязкова будзем трымаць сваіх чытачоў у курсе падзей.**



### • РАЁННЫЯ ЗВЕСТКІ

## НАСКОКАМ ПРАБЛЕМУ НЕ ВЫРАШЫЦЬ

УЛ.ІНФ. «ДВ».

25 мая адбудзецца пасяджэнне прэзідыума Маскоўскага райсавета народных дэпутатаў, на якім гутарка пойдзе аб выкананні рашэнняў 6-й сесіі 7-га склікання. А менавіта — аб стане і мерах па паляпшэнню эканамічнай сітуацыі, а таксама аб якасці прадуктаў харчавання і пітной вады ў раёне. Рыхтуе гэта пытанне пастаянная дэпутацкая камісія па экалогіі.

У павестку дня чарговай сесіі будзе ўнесена пытанне аб рабоце райвыканкама і грамадскіх фарміраванняў раёна па сацыяльнай абароне ветэранаў вайны і працы, пенсіянераў, інвалідаў і мнагадзетных сем'яў. Перш чым праект рашэння будзе разгледжаны на сесіі, ён павінен прайсці доўгі шлях ад распрацоўкі ў дэпутацкіх камісіях — з аднаго боку і ў службах выканкама — з другога. Потым сумеснымі намаганнямі абодва бакі прадставяць свае варыянты на прэзідыум райсавета. Механізм здаецца простым толькі на першы погляд, бо ўзнятая праблема вельмі сур'ёзная, каб вырашаць яе з наскоку.

Службы райвыканкама: па сацыяльнаму забеспячэнню насельніцтва, ахове здароўя, народнай адукацыі — павінны былі ў тэрмін да 10 мая падрыхтаваць свае прапановы па сацыяльнай абароне людзей. Што яны і зрабілі. Зараз ідзе іх апрацоўка і абагульненне з прапановамі дэпутацкіх камісій. Але апошняе слова прагучыць на сесіі, якая запланавана на чэрвень.

### • ЧТО ОСТАЕТСЯ ДЕЛАТЬ

## «ОН ДОЛЖЕН УМЕРЕТЬ». ТАК СЧИТАЕТ ДОЧЬ ПОГИБШЕЙ

Виктор ФЕДОРОВИЧ.

Во вторник (11 мая) в Минском городском суде завершился четвертый день слушания дела Николая Сребняка, обвиняемого в умышленном убийстве при отягчающих обстоятельствах и ряде нападений на женщин. За это время в суде дали показания подсудимый, потерпевшие, свидетели, были просмотрены видеодокументы следствия.

По версии Сребняка, развод с женой, которую он якобы очень любил, привел его к потере контроля над собой. А потому он бродил по вечерам в районе улиц Ангарской и Герасименко и в каждой женщине видел «свою Наташу», приближался, разворачивал к себе лицом, а что было дальше — не помнит. Следует заметить, показания в суде заметно отличались от показаний во время следствия. Видеозапись следственного эксперимента служит веским аргументом не в пользу Сребняка. В сентябре прошлого года он точно указал места нападений, подробности, в том числе и той роковой ночи с 27 на 28 мая, когда с разницей в два часа совершил два последних нападения, одно из которых закончилось трагически для 47-летней женщины.

Согласно действующему законодательству, суд вправе определить Н.Сребняку срок заключения от 8 до 15 лет либо приговорить к смертной казни.

Дочь погибшей считает, что убийца ее матери не имеет права жить...



## Гарачы тэлефон

**ДЗЯКУЙ вам, паважаныя чытачы «ДВ», што з ахвотаю адгукнуліся на нашу новую рубрыку. І хаця, будзем шчырымі, «Тэлефон» пакуль не расплавіўся ад гарачыні, але пытанняў паступае шмат. Многія з іх носяць даведачны характар: накшталт, адказаць, дзе знаходзіцца тая ці іншая ўстанова; або, куды звярнуцца са сваёю праблемаю і г.д. Па меры магчымасці падказваем, накіроўваем. Нямала людзей звоніць, каб расказаць аб сваіх «балячках», цяжкасцях у жыцці. Выслухоўваем, спачуваем, спадзяёмся, што хоць гэтым можам «аблегчыць» душу чалавеку. Частка званкоў патрабуе больш глыбокай «прапрацоўкі», часу на вырашэнне. Не хвалюйцеся, мы памятаем пра іх. Калі не можам адказаць — накіроўваем свае запыты ў адпаведныя інстанцыі.**

**Сёння ж мы даём адказы на некаторыя тэрміновыя пытанні.**

*Двойчы званіла адна жанчына наконт лячэння ад алкагалізму па метаду Данской і Даўжэнкі.*

**Падказваем, што дапамогу тут можа аказаць** *спецыялізаваная наркалагічная* **амбулаторыя ананімнага лячэння. Тут карыстаюцца навейшымі методыкамі, у тым ліку і кадзіраваннем па метаду Даўжэнкі, прымяняецца і медыкаментознае лячэнне, іголкаўколванне, лазерапунктура і іншыя працэдуры. Знаходзіцца амбулаторыя па адрасу:** *вул. Някрасава, 22, корпус 1. Тэлефон: 32-31-03.* **Звяртацца можна ўвесь дзень.**

*Некалькі чалавек цікавіліся лёсам «восьмага канала» на тэлебачанні.*

**Пакуль і мы не можам праясніць сітуацыю. Конкурс, які быў аб'яўлены яшчэ напачатку года, 15 мая заканчваецца. Вядома, што прэтэндэнтаў на эфір хапае, прычым, «заявіліся» канкурсанты не толькі з Мінска, але і з іншых гарадоў. Будзем спадзявацца, што аўтарытэтнае і кампетэнтнае журы аператыўна разбярэцца ў сітуацыі і канал зноў выйдзе «на экран».**

**На гэтым, бадай, усё. Мы будзем старацца аператыўна трымаць з вамі сувязь. А пакуль яшчэ раз паўтараем нумар «гарачага тэлефона»: 68-26-93.**

### • ФУТБОЛ

## СОЧИНЕНИЕ НА ЗАДАННУЮ ТЕМУ

ИВАН КАХНОВИЧ.

Если мысленно представить каждый матч в виде листа бумаги, то футболисты, выходя на поле, пишут свое произведение. А точнее, сочинение, тема которого — победа. Вчерашний вечер был «богатым» на футбол, поэтому болельщикам предоставилась возможность и оценить «творения», и насладиться мастерством авторов.

Впрочем, те, кто смотрел встречу олимпийских сборных Беларуси и Молдовы, наверняка, были разочарованы. И не только поражением нашей команды. Точнее, дело не столько в счете, сколько в содержании игры. Здесь белорусские олимпийцы выглядели очень бледно. Складывалось впечатление, что перед нами не команда, а случайно организовавшиеся пляжные игроки. Вроде по отдельности каждый что-то умеет, а вместе — ничего не получается. И результат — по игре. Хотя гол был забит всего один — на 23-й минуте его с пенальти провел Ион Тестемицяну. Шансы изменить результат были у обеих команд, причем гости были даже ближе к успеху, но счет так и остался неизменным — 1:0 в пользу молдован.

А на «Уэмбли» состоялся матч, в котором должен был участвовать московский «Спартак». Остается только сожалеть — какой бы получилась в таком случае финальная встреча на Кубок обладателей Кубков! Ибо, по сути, матч «Парма» — «Антверпен» напоминал игру в «кошки-мышки», где итальянцы ради собственного удовольствия «баловались» с соперником. Впрочем, бельгийцы тоже, хотя и не очень искусные, но зубастые ребята, что не раз доказывали. Но на этот раз фортуна улыбнулась им только однажды, когда через 3 минуты после пропущенного уже в самом начале матча гола (отличился капитан «Пармы» Минотти) счет сравнял Северейнс. Однако затем Мелли, а в конце игры Куоги провели еще два мяча. Победа «Пармы» — 3:1 — красивая и заслуженная. Именно от таких игр, где торжествует мастерство и вдохновение, получаешь удовольствие.

